# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 18 (688) 4 МАЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### Гарадок

Справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадоцкага аддзела БГКТ адбылася 19 красавіка. Са справаздачным дакладам праўлення выступіў сакратар аддзела Мікалай Матэйчук, а са справаздачай рэвізійнай камісіі — Юрка Геніюш. Гарадоцкі аддзел дзейнічае няпоўную кадэнцыю, і таму яшчэ не паспеў шырока разгарнуць працы. Ён сваёй дзейнасцю павінен ахапіць тры грамадскія рады нарадовыя, а менавіта: Гарадок, Каралёвы Мост і Зубкі.

Але пакуль што дзейнасць БГКТ адчуваецца толькі ў ГРН Гарадок. Тут ёсць 9 гурткоў БГКТ, якія па меры сваіх магчымасцей бяруцца за падрыхтоўку беларускіх п'ес. Найлепш аматарскі рух развіваецца ў самым Гарадку. І дакладчык, і дыскутанты гаварылі аб тым, што ёсць ужо значна лепш у параўнанні з тым часам, калі не было ў Гарадку праўлення аддзела. Ёсць усе падставы, каб было яшчэ лепш і каб арганізаваліся гурткі БГКТ ва ўсіх вёсках трох грамад.

Прысутныя на канферэнцыі выбралі новае праўленне і рэвізійную камісію, а таксама дэлегатаў на VI з'езд БГКТ. Новае праўленне аддзела ўзначаліў Мікалай Матэйчук, намеснікам яго з'яўляецца Сцяпан Копа, а сакратаром — Зося Пашкоўская. На старшыню рэвізійнай камісіі выбраны Юрка Геніюш.

Канферэнцыя закончылася прыняццём пастановы, якая ўкірункоўвае далейшую працу аддзела. Вёў канферэнцыю Мікалай Лебядзінскі. У ёй узялі таксама ўдзел сакратар ГП Уладзімір Юзвюк і прадстаўнік УСВ ВРН-у Анатоль Анісеровіч. (МХ)

### Мілейчыцы

20.IV.1969 года адбылася ў Мілейчыцах справаздачна-выбарчая канферэнцыя аддзела БГКТ. Прыняло ў ёй удзел 39 асоб, у гэтым ліку 34 дэлегаты з паасобных гурткоў (на 45 выбраных) і 5 асоб гасцей. Партыйныя ўлады прадстаўляў член экзекутывы КП ПАРП у Сямяцічах тав. Андрэй Датчук і сакратар Павятовага камітэта ЗСЛь тав. Іван Харубін, а адміністрацыйныя ўлады — кіраўнік ВСВ прэзідыум павятовай рады тав. Яўген Леўчук. ГП БГКТ прадстаўляў Ул. Юзвюк.

У адрозненне ад іншых канферэнцый аддзелаў БГКТ тут моладзі было толькі каля 30% агульнага ліку дэлегатаў. Канферэнцыю вёў член праўлення аддзела БГКТ Барыс Абрамовіч. З абшырным справаздачным дакладам выступіў старшыня праўлення Анатоль Мартыновіч.

У дыскусіі забірала голас 12 асоб. Каля паловы дыскутантаў навязвала да 25-годдзя ПНР і выбараў у сейм і рады нарадовыя, 4 асобы кранала справы арганізацыйныя БГКТ (Мусько, Рышчук, Вішанка, Вашчук), у тым патрэбу пашырэння дзейнасці на заходнюю частку Сямяціцкага павета. Некалькі дыскутантаў гаварыла аб навучанні беларускай мовы над развіццём аматарскага руху, удзелам у працы БГКТ інтэлігенцыі з Сямяціч, пашырэннем пачытнасці беларускай кніжкі і гэтак далей. Амаль усе яны станоўча ацэньвалі працу аддзела.

На канферэнцыі выбрана новае 11-асабовае праўленне аддзела БГКТ на чале з Анатолем Мартыновічам. Намеснікам старшыні выбраны А. Датчук, а сакратаром — Т. Вашчук. Вырашана, што ў працы VI з'езда БГКТ удзел возьме ўвесь склад праўлення.

**Ул. Юзвюк**




**Восемдзесяты ужо раз адзначае працоўны люд зямлі сваё свята — дзень Першага мая. Ва ўсіх краінах нашай планеты ў першамайскія дні вогненнымі зарніцамі гараць кумачовыя палотнішчы, ідуць калоны людзей працы.**

**У наш час няма больш магутнай сілы, чым сусветная армія рабочага класа. У сярэдзіне XIX стагоддзя лік усіх прамысловых рабочых не перавышаў 10 мільёнаў асоб. На пачатку XX стагоддзя сусветны пралетарыят складаў 30 мільёнаў. Цяпер лік рабочых і служачых ва ўсім свеце асягнуў 540 мільёнаў асоб. 150 мільёнаў рабочых, узначаліўшы народныя масы, устанавілі ўладу свабодную ад усялякай эксплуатацыі працы звыш чым на адной чвэрці зямлі. Год за годам развіваецца эканоміка сацыялістычных краін, узмацняецца іх абаронная магутнасць, удасканальваюцца грамадскія суадносіны, паляпшаецца жыццё працоўных.**

**Для нас — грамадзян ПНР — сёлетні Першамай мае асаблівае значэнне. Адбываецца ж ён у юбілейным годзе нашай народнай дзяржавы, знаходзімся ж напярэдадні важнай палітычнай падзеі — выбараў у сейм і рады нарадовыя.**

**Аб'яднаныя ў Фронце адзінства народа, пад кіраўніцтвам Польскай аб'яднанай рабочай партыі, ідзем на здзяйсненне новых заданняў, якія накрэсліла нам выбарчая праграма ФАН і пастанова апошняга пленума ЦК ПАРП.**

**З нашых першамайскіх калон шлем сардэчнае прывітанне ўсім нашым сябрам, усім, хто змагаецца за мір, дэмакратыю і сацыялізм.**




НАСУСТРАЧ 25-ГОДДЗЮ

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ ДОБРА ЦІ КЕПСКА?

Добра ці кепска Беластоцкаму павету, што яго вёскі расселіся вакол вялікага горада, прамысловага і культурнага цэнтра ваяводства і сталіцы ваяводства?

Пакуль аб гэтым разважаць, найперш некалькі слоў аб павеце ўвогуле. Сілуэт яго нетыповы. Калі б адрэзаць рукаў выцягнуты далёка на ўсход аж да граніцы польска-савецкай, Беластоцкі павет стаўся б бліжэйшым да кола, з цэнтральным палажэннем сваёй сядзібы ў Беластоку. Гаворыцца, што пры вызначэнні граніц паветаў і ваяводстваў бярэцца пад увагу гаспадарчую і адміністрацыйную сітуацыю данага раёна. Я не эканаміст, ды цяжка паверыць, каб эканоміка тэрыторыі вакол Беластока і ўсходніх прыгранічных вёсак павета была аднолькавай. У размовах, якія правяла я перад пісаннем артыкула, якраз знайшла пацвярджэнне розніц паміж гэтымі раёнамі.

Усходнія тэрыторыі Беластоцкага павета выдзяляюцца сваёй, як бы сказаць, убогасцю (горшая зямля, тут найбольш адлогаў, адгэтуль найбольш людзей і асабліва моладзі выехала ў гарады, напрыклад, вёска Баброўнікі напалову апусцела, многа хат забітых дошкамі), забітасцю (кепскія і мала дарог, цяжкія даезды), слабейшым развіццём культурнага руху (менш тэлевізараў у вёсках, больш традыцыйных форм культурна-асветнай працы, святліцы замест клубаў, роля якіх зводзіцца часта да патанцовак).

Выдзяляецца ўсходняя тэрыторыя павета (мы назвалі яе рукавом) яшчэ іншымі рысамі. Агульна сцвярджаецца факт, што заселена яна людзьмі вельмі гасціннымі, шчырымі, дабрадушнымі і ўражлівымі. Крыху замоцна традыцыйнымі — не лёгка прыймаюць новае (напрыклад, справа клубаў «Рух» — культурных цэнтраў, якія апраўдалі сябе ва ўсёй краіне, а ва ўспомненых вёсках рукава людзі да іх яшчэ не пераканаліся). Расказвалі мне, як моцна трымаюцца тут людзі святліц і бароняць іх у вёсках: Страшава, Юшкаў Груд, Белявічы.

Кантакты ўсходніх вёсак з павятовым горадам рэдкія і зводзяцца да неабходных выездаў у раду нарадовую, часам на рынак. Каб ужо падсумаваць разважанні, скажам, што рукаў засельвае насельніцтва па паходжанню беларускае, якое ў сітуацыі пэўнай ізаляванасці больш чым рэшта павета захавала народны характар у абычаях і звычаях, поглядах, думках і спосабе жыцця. Падабалася мне вельмі, што кіраўнікі культуры Беластоцкага павета, а дакладна называючы Ян Трусяк (падінспектар да спраў культуры Павятовай рады нарадовай у Беластоку) ведаюць, бачаць і... цэняць гэтую народную спецыфіку рукава, значыць спецыфіку, якую надае яму народная беларуская традыцыя.

Улічваючы яе зрадзілася ў культуры Беластоцкага павета думка, каб стварыць на гэтай тэрыторыі скансен (музей на адкрытым паветры). Была б тут хата, як прыклад народнага вясковага будаўніцтва, былі б іншыя экспанаты, якія б гаварылі аб матэрыяльнай і духовай культуры этнічнай беларускай групы Беластоцкага павета.

Тэрыторыя вакол Беластока знаходзіцца пад уплывам горада. Уплыў тут праяўляецца ва ўсім: у гаспадарцы, у культуры, у спосабе жыцця. Многа людзей з гэтых вёсак працуе ў Беластоку, штодзённа даязджаюць у горад. Вёскі наогул вялікія, людныя. Нельга сказаць, каб моладзь з іх уцякала. Гэтая моладзь з горада прыносіць думкі, а часта і новыя формы грамадска-культурнай дзейнасці. Прабуе часам прышчэпліваць іх у сваіх вёсках. Людзі ў гэтых вёсках маюць больш грошай і выдаваць іх не вымушаны на ежу, бо яе маюць з гаспадаркі. Грошы выдаюць на люксусовае абсталяванне кватэр, уборы і трэба ім прызнаць, на культурныя мерапрыемствы. Людзі з-пад беластоцкіх вёсак часцей ініцыюють і будуюць у сябе дамы культуры, клубы. Грошы зарабляюць не толькі на працы ў беластоцкіх фабрыках і заводах. Вяс-

Працяг на стар. 4

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### СЕСІЯ Ў МАСКВЕ

26 красавіка г.г. закончылася ў Маскве надзвычайная Сесія Савета эканамічнай узаемадапамогі. Прынялі ў ёй удзел кіраўнікі камуністычных і рабочых партый і шэфы ўрадаў: **Балгарыі, Чэхаславакіі, Манголіі, ГДР, Польшчы, Румыніі, Венгрыі і СССР.** Польскую дэлегацыю прадстаўлялі **Ул. Гамулка** і **Ю. Цыранкевіч,** а на чале дэлегацыі СССР стаялі **Л. Брэжнеў** і **А. Касыгін.**

Сесія, якая пачала працу 23 красавіка г.г., выклікала зразумелае зацікаўленне на цэлым свеце. Дзяржавы, якіх прадстаўнікі заселі за канферэнцыйным сталом, даюць больш чым палову нацыянальнага даходу і 1/3 прамысловай прадукцыі свету. У аб'яўленым пасля закачэння сесіі камюніке гаворыцца, што існавала тут аднадумнасць ва ўсіх асноўных справах і што прычыніцца яна да больш цеснага эканамічнага супрацоўніцтва між сацыялістычнымі краінамі ў будучыні. Сесія даручыла Выканаўчаму камітэту РЭУ, а перш за ўсё яе сёлеташняму старшыні **П. Ярашэвічу,** віцэ-прэм'еру польскага ўрада, і сакратару **М. Фаддзееву,** увесці прынятыя пастановы ў рэалізацыю.

### З'ЕЗД КП КІТАЯ

Закончыўся з'езд КПК. Тое, што дайшло да нашага ведама, на з'ездзе было больш 1500 дэлегатаў, якія не прадстаўлялі сабой ніякіх партыйных арганізацый, таму што яны не існуюць. Дэлегатаў назначалі ваенныя камандзіры паасобных акруг. Можна смела сказаць, што быў гэта з'езд партыі, якая фактычна не існуе.

На з'ездзе не прынята ніякай праграмы на наступныя гады. Асноўнай яго мэтай было легалізаванне культурнай рэвалюцыі, а ў сувязі з тым змены структуры ўлады, за што барацьба ў Кітаі вядзецца ўжо ад 1967 г.

У новапрынятым статуце гаворыцца, што правадыром партыі з'яўляецца Мао Цзэ-дун, а яго намеснікам — Лінь Пяо. Адным словам гэта статут прыватнай партыі Мао.

Новы ЦК складаецца з 170 членаў і 109 намеснікаў членаў ЦК. Толькі 45 чалавек — гэта члены дагэтуляшняга ЦК. На 170 членаў ЦК — 73 гэта ваенныя камандзіры, а 30 з лішнім з гэтага ліку кіруе непасрэдна т.зв. рэвалюцыйнымі камітэтамі.

Фактычная ўлада аднак мае быць у руках 8 чалавек на чале з Мао. У гэтым ліку знаходзіцца жонка Мао, яго зяць, шэф асабістай аховы Мао, Лінь Пяо і іншыя.

### ДЭ ГОЛЬ ПРАЙГРАЎ

У нядзелю 27.IV. г.г. адбылося ў Францыі рэферэндум. Дэ Голь заявіў перад гэтым, што калі большасць французаў выкажацца «не», ён перастане быць прэзідэнтам. Так і сталася. больш чым 52% французаў на пастаўленыя пытанні ў галасаванні сказала «не». Ад панядзелку 28.IV. г.г. дэ Голь перастаў быць прэзідэнтам V Рэспублікі. Згодна з канстытуцыяй функцыю прэзідэнта да новых выбараў прыняў на сябе старшыня сената. Да галасавання «не» заклікала м. інш. французская кампартыя.

А. К.



## БССР

### ЛЕНІНА

У сувязі з гадавінай нараджэння Леніна адбыліся ў цэлай Беларусі вялікія ўрачыстасці. Як вядома, Ленін з'яўляўся гарачым прыхільнікам стварэння беларускай дзяржаўнасці, БССР.

У Мінску адбылося ўрачыстае пасяджэнне з удзелам кіраўнікоў партыі і ўрада Беларусі. З дакладам «99 гадоў з дня нараджэння У. І. Леніна» выступіў першы сакратар Мінскага абкома КП Беларусі І. Палякоў.

У Дзяржаўнай бібліятэцы Беларускай ССР адкрыта выстаўку кніжак — Ленін і Беларусь. Між іншым экспануецца бібліяграфія ленінскіх артыкулаў і дакументаў, якія адносяцца да Беларускай Рэспублікі, а таксама выказванні У. І. Леніна аб Беларусі.

### ФЕСТЫВАЛЬ

Цэнтральны Камітэт камсамола Беларусі і Саюз пісьменнікаў Беларусі вырашылі правесці ў гэтым годзе рэспубліканскі фестываль маладой паэзіі. Прымаць удзел у ім маюць права маладыя паэты не старэй 25 год.

У верасні адбудзецца ў Мінску заключная тура фестывалю, пасля раённых і абласных.

Фестываль арганізоўваецца з мэтай пашырэння камсамольскай тэматыкі.

### ГАСТРОЛІ

Мінск наведаў адзін з лепшых камерных ансамбляў свету — квартэт імя Бетховена ў саставе народнага артыста РСФСР, прафесара Дзмітрыя Цыганова, лаўрэата Міжнароднага конкурсу Мікалая Забаўнікава, заслужанага артыста РСФСР Фёдара Дружыніна, народнага артыста РСФСР, прафесара Сяргея Шыркінскага.

### БЕРЛІНЦЫ

Спецыяльны курс беларускай мовы і літаратуры ўведзены ў Берлінскім універсітэце імя Гумбальта. Берлінцы будуць вывучаць граматыку нашай мовы, знаёміцца з творамі беларускіх пісьменнікаў.

### АГАРОДНІНЫ

Фабрыкай агародніны называюць у Гродне цяплічна-парніковы камбінат. У яго распараджэнні пяцьсот тысяч квадратных метраў цяпліц. Штогод будзе вырошчвацца тут больш як чатыры тысячы тон агуркоў, цыбулі, салаты і памідораў.

### ПЕРШЫ

Пачаўся выпуск новага часопіса, які называецца — «Веснік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. Леніна» (серыя гісторыі, філасофіі, эканомікі і права).

### ТЭЛЕВІЗІЙНЫХ

На Усесаюзным фестывалі тэлевізійных фільмаў, які адбыўся ў Ленінградзе, Беларусь паказала чатыры тэлефільмы. Узнагароджаны два беларускія тэлефільмы: «Агонь» рэжысуры І. Вейняровіча і «Кражонак» у рэжысуры М. Калініна. Сцэнарый да другога фільма напісаў вядомы беларускі пісьменнік Ул. Караткевіч.

(С. Я.)



## ПОЛЬШЧА

### ВЫБАРЫ

Ва ўсіх 80 выбарчых акругах канферэнцыі Польскай аб'яднанай рабочай партыі і іншых палітычных стронніцтваў выбралі сваіх кандыдатаў у паслы. Ваяводскія рады нарадовыя і камітэты Фронту адзінства народа выступалі з лакальнымі выбарчымі праграмамі. Ва ўсёй краіне праводзяцца кансультацыйныя сходы, на якіх кансультуюцца з выбаршчыкамі спіскі кандыдатаў у грамадскія рады нарадовыя. 1 чэрвеня выбярэм 165 725 радных у 5.434 рады нарадовыя на 1969—1973 гады. Найбольшая колькасць асоб увойдзе ў склад грамадскіх радаў нарадовых. Агулам у грамадскія рады будзе выбрана звыш 112 тысяч радных.

### ДРУЖБА

З нагоды 24 гадавіны падпісання дагавору аб дружбе і ўзаемадапамозе паміж Польшчаю і Савецкім Саюзам адбыўся ў Варшаве ўрачысты канцэрт, у час якога з прамовамі выступілі: намеснік прэм'ера Пётр Ярашэвіч і пасол СССР у Польшчы Аверкій Арыстаў. Таварыш Пётр Ярашэвіч падкрэсліў перш за ўсё вялікае значэнне для Польшчы і польскага народа, вялікіх ленінскіх ідэй і Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, а затым пераанапізаваў развіццё гаспадарчых суадносін паміж абедзвюма краінамі. Суадносіны гэтыя з'яўляюцца важнай падбудовай нашага палітычнага адзінства.

«Польска-савецкая дружба, — сцвердзіў прамоўца, — сталася неадлучным элементам палітычнага жыцця Еўропы. Для нас, палякаў, з'яўляецца яна пацверджанай вопытам дваццаціпяцігоддзя гарантыяй незалежнасці, непарушнасці нашых межаў і мірнага развіцця».

Пасол СССР А. Арыстаў падкрэсліў вялікае значэнне дагавору для абедзвюх краін і перказаў сардэчныя пажаданні для польскага народа ад савецкага народа.

### ВІЗІТ

Па запрашэнню старшыні Рады Дзяржавы і Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народа Мар'яна Спыхальскага прабывала ў Польшчы з візітам дэлегацыя Цэнтральнага камітэта Нацыянальнага фронту Чэхаславакіі. Пры ўрачыстым прывітанні старшыня дэлегацыі Эвжэн Эрбан заявіў: «Мы, чэхі і славакі, будзем больш рашуча чымсьці дагэтуль змагацца супраць усяго, што парушае палітычныя, эканамічныя і абаронныя сувязі Чэхаславакіі з сацыялістычнай супольнасцю, сувязі — якія ствараюць нашым краінам поўную гарантыю перад знешняй пагрозай.

### У 2000 ГОДЗЕ

Пры прэзідыуме Польскай Акадэміі навук узнік Камітэт доследаў і прагнозаў «Польшча 2000». Яго заданнем будзе арганізаванне комплексных доследаў, якія дазволяць прадбачыць аблічча краіны ў 2000 годзе.

### У НОВАЙ ГУЦЕ

У сувязі з урачыстасцямі 20-годдзя Новай Гуты пастаноўлена пабудаваць тут у наступным годзе помнік Уладзіміра Леніна.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### НАШЫ КАНДЫДАТЫ

Акруговыя камітэты Фронту адзінства народа, выслухаўшы прапаноў палітычных партый і грамадскіх арганізацый, у мінулым тыдні зацвердзілі спісак кандыдатаў у паслы сейма Польскай Народнай Рэспублікі з Беластоцкага ваяводства.

У акрузе № 9, у састаў якой уваходзяць: горад Беласток і Беластоцкі, Бельскі, Гайнаўскі, Сакольскі і Сямяціцкі паветы, кандыдатамі ў паслы зацверджаны: З. Новак, член ЦК ПАРП, старшыня Цэнтральнай камісіі партыйнага кантролю; Э. Красоўская, член Рады Дзяржавы і член Цэнтральнага камітэта Дэмакратычнага стронніцтва; А. Лашэвіч — член ЦК ПАРП, І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку; А. Ляўко — гаспадар з вёскі Пагарэлкі ў Беластоцкім павеце; Т. Плаўскі — слёсар фабрыкі жалезных прылад у Беластоку; Крыстына Маршалак — галоўны рэдактар месячніка «Кантрасты»; М. Адамец — гаспадар з вёскі Сакі ў Гайнаўскім павеце; В. Раманьчук — слёсар з Бельскай рашарні і Г. Свідэрская — грамадскі аграном з вёскі Сідра ў Сакольскім павеце.

У дзвюх іншых выбарчых акругах Беластоцкага ваяводства — у Элцкай (№ 10) і Ломжынскай (№ 11) — кандыдуе на паслоў у сейм па 7 асоб, а сярод іх: у Элцкай акрузе — Ян Рызнар — старшыня Ваяводскага камітэта Аб'яднанага людовага стронніцтва ў Беластоку, а ў Ломжынскай акрузе — Балеслаў Падэдворны — намеснік старшыні Рады Дзяржавы.

Адначасова Ваяводскі камітэт Фронту адзінства народа на сваім пленарным пасяджэнні зацвердзіў спісак кандыдатаў у радныя ВРН. Ад імя Ваяводскай паразумеўчай камісіі ПАРП і Стронніцтваў палітычных і грамадскіх арганізацый Беласточчыны спісак 137-мі кандыдатаў прадставіў А. Лашэвіч.

Пленум прыняло гэты спісак і пераслала яго ў Ваяводскую выбарчую камісію, як спісак кандыдатаў Фронту адзінства народа.

### ПЕРШАМАЙ

Жыхары гарадоў і вёсак Беластоцкага ваяводства ўрачыста адзначылі свята рабочых. Быў гэта ўжо 24 Першамай, якога святкавалі ва ўмовах поўнай свабоды.

Напярэдадні Першамая з усіх заводаў Беласточчыны паступалі штодзень паведамленні, якія паказваюць, што рабочыя адзначаюць свята працоўных больш прадукцыйнай працай, намагаючыся датэрмінова выканаць абавязацельствы ў гонар 25-годдзя ПНР. На мітынгах і ўрачыстых сходах рабочыя выяўлялі сваю салідарнасць з усімі прагрэсіўнымі сіламі на свеце.

### АГЛЯД

У мінулую нядзелю, 27 красавіка г.г., адбыўся ў Беластоцкім тэатры ваяводскі агляд аматарскіх калектываў нацыянальных меншасцей з Беластоцкага ваяводства. У аглядзе прыняло ўдзел 12 аматарскіх калектываў, а ў тым ліку — 4 беларускія.

(вр)




**Niedziela, 4.V.**

9.15 Program dnia. 9.20 TV Kurs Rolniczy: „Uprawa lucerny”. 9.55 „Przypominamy, radzimy”. 10.05 Dla młodych widzów: „Sport i zabawa” — program TV NRD. 11.05 „Z dziejów jednej rodziny” — film TV ZSRR. 11.25 „Kronika 50-lecia Kraju Rad — rok 1937”. 11.50 Dziennik. 12.05 „Ludzie i zdarzenia”. 12.25 „Najpiękniejsza jest muzyka polska”. 13.00 „Przemiany”. 13.30 Dla dzieci: „Baśnie dolnośląskie”. 14.00 „Wielka gra”. 14.50 „Spotkanie z pisarzem” — Witold Zalewski. 15.20 „Zasadzka nad rzeką” — film fab. USA. 16.50 Teatr TV: K. C. Norwid — „Stygmat”. 17.50 „Mała historia Filmu Polskiego” cz. I („W starym kinie”). 18.50 „Wieczorne rozmowy”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Małżeństwo doskonałe”. 21.20 PKF. 21.30 Wiadomości i filmowe sprawozdania sportowe z Kolarskiego Wyścigu ulicznego o Puchar MON oraz międzypaństwowego meczu tenisowego Polska — ZSRR.

**Poniedziałek, 5.V.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.30 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec”. 17.30 „Zapałka” — film pol. 17.50 „Echo Stadionu”. 18.10 Kino Krótkich Filmów. 18.40 „Eureka”. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV. M. Patkowski: „Grający pomnik”. 21.10 „Panorama Literacka”. 21.40 „Koncert Oliwski”. 22.10 Dziennik.

**Wtorek, 6.V.**

9.55 Dla szkół (kl. I lic.) Język polski. J. U. Niemcewicz: „Powrót posła”. 10.35 „Królowa stacji benzynowej” — film fab. radz. 11.50 Przerwa. 12.45 i 14.55 Przysposobienie Rolnicze: „Zapobieganie i zwalczanie chorób zbóż”. 13.20 Przerwa. 15.30 i 22.20 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 „Wytrwali i wygrali” — film dok. pol. 17.05 „Telekram” 17.15 Reportaż. 17.50 „Królowa stacji benzynowej” — film fab. radz. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 Telewizyjny Ekran Młodych. 22.00 Dziennik.

**Środa, 7.V.**

8.35 „Małgosia” — film fab. bułg. 9.55 Dla szkół (kl. VII) Historia: „W pracowniach wielkich uczonych”. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Chemia: „Cement”. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VI) Fizyka: „Wędrówka ciepła”. 12.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 „Matematyka w szkole”: „Jednokładność i podobieństwo” cz. II. 15.30 i 22.50 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dla młodych widzów: „Jak dawniej malowano” (Klub Pod Smokiem”). 17.20 PKF. 17.30 „Kiedy trzeba podjąć decyzję”. 18.00 TV Kurier Warszawski. 18.15 „Mistrz Techniki 1968”. 18.45 „Giełda piosenki”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 19.55 Studio Współczesne. A. Mularczyk: „Oddaj buty”. 20.40 Sprawozdanie z międzynarodowego meczu piłki nożnej Holandia — Polska. 21.15 Dziennik. 22.15 „Światowid”.

**Czwartek, 8.V.**

9.55 Dla szkół (kl. VIII) Historia: „W obronie pokoju”. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Język polski. L. Kruczkowski: „Kordian i cham”. 11.35 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. I lic. i XI) Język polski: „Poezja manifestu artystycznego”. 13.15 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 i 23.00 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem”. 17.50 TV Kurier Kielecki. 18.05 „Nad Odrą i Bałtykiem”. 18.35 Film rozrywkowy. 18.50 Wszechnica TV: „Nasi uczeni” — Stanisław Leszczycki. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.00 „Potyczki poselskie pisarzy” — Trybuna Telewizyjna. 20.40 Teatr Sensacji: J. Binder i W. Szuster: „Kryptonim Maks”. 21.40 „Refleksje”. 22.10 „Twórcy muzyki współczesnej” — Grażyna Bacewicz. 22.50 Dziennik.

**Piątek, 9.V.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne: „Mechanizacja w rolnictwie”. 10.25 „Niezwykła klasa” — film fab. CSRS. 11.50 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 „Wybieramy zawód”. 15.30 i 22.40 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.50 „Minuta milczenia” (Moskwa). 17.05 Dla dzieci: „Pan Półka i Spółka”. 17.25 TV Kurier Mazowiecki. 17.40 „Nie tylko dla pań”. 18.10 IV Festiwal Kultury Studentów w 25-lecie Polski Ludowej. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Poligon”. 20.35 „Godziny nadziei” — film fab. pol. 22.05 „10 minut recenzji”. 22.15 „Sylwetka karykaturzysty” — Zbigniew Damski. 22.30 Dziennik.

**Sobota, 10.V.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Geografia. „Japonia”. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o człowieku: „Sprawy piętnastolatków” — program II. 11.25 „Lecą żurawie” — film fab. radz. 12.55 Przerwa. 15.20 Program dnia. 15.25 Kurs Rolniczy: „Zasady działania chemicznych środków ochrony roślin”. 16.00 Program Tygodnia. 16.20 „Gry i zabawy w klasie I i II” („Wychowanie fizyczne naszych dzieci”). 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Dla każdego coś miłego”. 18.00 „Gawędy wilków morskich”. 18.15 „Encyklopedia morza” — film. 19.00 „Hejnał” — rep. filmowy. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 „Monitor”. 20.05 „Koncert Wiosenny”. 21.25 Dziennik TV i Wiadomości Sportowe. 21.45 „Lecą żurawie” — film fab. radz. 23.15 Filmowy program rozrywkowy.




**Piątek, 2 maja**

8.00 „Budzik”. 8.30 „Dzwonią, otwierajcie drzwi”. Film fab. 9.45 Dziennik. 10.00 „Wesołe miasteczko”. 10.30 „Tańce narodów świata”. 11.45 S. Michałkow. „Zielony konik”. Spektakl TV. 13.00 Piłka nożna. „Dynamo” (Mińsk) — „Torpedo” (Kutaisi) i „Spartak” (Moskwa) — „Torpedo” (Moskwa). 16.30 „Białoruś świąteczna”. 17.00 Koncert świąteczny. 17.40 „Przygody Patofila i Filopata. Filmy animowane dla dorosłych. 18.20 „Melodie estradowe”. 19.00 „Sztafeta nowin”. 19.45 Sprawozdanie z mistrzostw świata w szachach. 20.00 TV barwna. 21.00 W eterze „Młodość”.

**Sobota, 3 maja**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Wiedza”. 9.00 „Muzyczny turniej miast” (Homel — Iżewsk). 10.00 Przegląd międzynarodowy. 10.30 „Postępowi mistrzowie sztuki zagranicznej”. 11.00 Dla uczniów. 11.30 „Leninowska partia komunistów i klasa robotnicza”. 12.15 W eterze „Młodość”. 13.15 Kartki kalendarza muzycznego”. 13.45 Dla uczniów o szachach. 14.05 „Szkatułka muzyczna”. 14.15 „Rodem stąd”. Film TV. 15.00 TV barwna. 16.30 TV atlas narodów ZSRR. Estonia. 17.30 „Stowarzyszenie twórcze przygód i fantastyki. „Delegacja operatywna”. Część I. 18.30 Dziennik. 19.00 „Świat socjalizmu”. 19.30 „Wesele jesienne”. Film fab. 20.45 Koncert estradowy. 21.25 „Tylko fakty”.

**Niedziela, 4 maja**

8.00 „Kiosk muzyczny”. 8.30 „Tablice pamiątkowe Moskwy”. 9.00 Dla uczniów. Olimpiada biologiczna. I runda. 10.00 Literacko-muzyczna kompozycja. 10.45 „Godzina wiejska”. 11.45 Dla żołnierzy. 12.30 „Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1964”. 13.05 „Korespondenci partyzantów”. 13.45 Koncert państwowego zespołu tańców ludowych „Żok”. 14.30 „Czas”. 15.00 TV barwna. 17.30 „Delegacja operatywna”. Część II. 19.00 „Siedem dni”. 19.45 W eterze „Młodość”. 20.45 „Tydzień sportowy”. 21.00 „Tylko fakty”.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 125




## В'ЕТНАМСКАЕ НЕБА

**Цішыня...**
**і спакой**
**Ахуталі землю В'етнама,**
**Блакітнае неба**
**і сонца**
**Завялі калыханку адну.**
**Зялёная джунгля,**
**кветкі,**
**паляна**
**Дрымучыя, рыхтаваліся**
**да сну.**
**І раптам!**
**Адтуль —**
**дзе даль небасхілу,**
**З шумам,**
**грукатам,**
**звонам.**
**Надляцела яна — варожая сіла —**
**Ў зямлю**
**страляючы**
**громам.**
**Пасыпаліся бомбы цярністым дажджом**
**На вёскі,**
**бальніцы і школы.**
**Ўскалыхнулася зямля**
**Пад страшэнным агнём,**
**Загулі,**
**зазвінелі**
**смяротныя пчолы.**
**За снарадам**
**валіўся**
**снарад,**
**На працягу летняга дня**
**Каторы раз ужо падрад**
**Паўтаралася**
**забойцаў гульня.**
**О, праклятыя,**
**лютыя**
**каты!**
**Вы ўмееце спраўна знішчаць**
**Цэлыя вёскі,**
**сялянскія хаты,**
**Вы патрапіце добра страляць**
**Да бязбронных**
**матак**
**і дзетак.**
**Вам праціўнае нават**
**В'етнамскае неба,**
**Вобраз ніў і палёў,**
**колер кветак.**
**Вы ўпэўнены ўсе**
**што так трэба,**
**Што**
**вайна**
**неабходна...**
**Але, знайце!**
**Вы —**
**за рулём самалёта,**
**І тыя, што згодна**
**Даеце**
**загад**
**да палёта...**
**Знайце адно!**
**Калі сёння звініць над Ханоем,**
**Заўтра — дзе Вашынгтон**
**Зазвініць**
**сталёвая зброя,**
**Людскі**
**пачуецца**
**стогн.**

**Сяргей Сац**

## ЖАДАННІ

Дроў накалю,
Печ напалю
Увечар.

Прыдзе спакой,
Кране рукой
За плечы.

І павядзе
Думка мяне
Удалеч,

Я буду сніць
Цудоўныя сны —
Жаданні.

Маё жыццё,
Як злудны сон
Праходзіць.

Табе адной
Гэты радок

Валодзін.

**Ул. Гайдук**



* * *

Дароце

**Ад цябе пачынаецца дзень...**
**Для цябе ажывае свет.**
**З сонцам ў прыгаршчах**
**ранак ідзе**
**і купаецца ў харастве.**

**Дыяменты блішчаць на траве,**
**чорны дрозд засвістаў на вярбе**
**і лагодны ветрык павеяў.**
**Уздыхнуў, паляцеў да цябе.**

**Для цябе толькі ранак прачнуўся.**
**Будзе цёплы, цудоўны дзень!**
**Ап'янелую шчасцем вясну**
**па ўзгорках вядзе чарадзей.**

**Ты там недзе выйшла на двор,**
**ў захапленні маргнула вачыма.**
**І напоўнілася хараством —**
**свежым ранкам вясеннім, дзяўчына.**

**Дык прымай. Гэта я шлю табе**
**гэты ранак ва ўсім харастве!..**
**Ад цябе пачынаецца дзень,**
**для цябе нараджаецца свет.**

**Алесь Свісёк**

## • ПАЭЗІЯ •

Паверыўшы ў паэзіі крыло,
ў інтымнасць Сафо, элегійнасць Крус,
агню я аддаю свой груз,
паверыўшы ў паэзіі крыло.
Лячу я на тваё святло —
загінула ў ім Сафо, Дэ ля Крус!
Або за мяккае было крыло...
Або — за аб'ёмісты быў груз...

**І. Чыквін.**

## ПОБАЧ СЯБЕ

Праследую рэчы
недасканалыя
праследую думкі
без зместу
абцяжараныя
нашай абмежаванасцю
немагчымасцю параўнацца з імі
мы ўзалежненыя
не ад іх
яны пазбаўленыя
нас
асобна трываем
побач сябе
недасканалыя

**Яша Бурш**



## • ВЯСНА •

Вясна прыносіць нам пацехі,
Цячэ бурліваю крыніцаю.
Змывае з хатаў шэры стрэхі,
Смяецца новай чарапіцаю.

Змывае хаткі-церамкі,
Збуцвелыя, драўляныя.
Ў рад становяцца дамкі
Цагляна-мураваныя.

З дарогаў каляіны гінуць,
Глыбокія — вясковыя.
Шляхі на цэлую краіну
Сцелюцца асфальтовыя.

Прапаў дзесь бразг «жалезнякоў»,
А з ім доля праклятая,
Прыйшла вясна да мужыкоў
Цудоўная, багатая...

**В. Асіповіч**

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

У Варшаўскім аддзеле БГКТ (Сенаторская 8) нядаўна наладжана мастацкую выстаўку Казіміра Швайноўскага, які прадставіў вялікую колькасць высокамастацкіх графік, прысвечаных пераважна помнікам літоўскай культуры ў Народнай Польшчы. Мастак Казімір Швайноўскі з'яўляецца сакратаром Варшаўскага аддзела Літоўскага грамадска-культурнага таварыства. Яго выстаўка ў нашым аддзеле сведчыць аб цесным супрацоўніцтве двух братніх таварыстваў.



**На здымку: Казімір Швайноўскі ля сваёй выстаўкі ў Варшаўскім аддзеле БГКТ.**

**Фота М. Шыпэрка**

## ЭСТОНСКАЯ П'ЕСА У БЕЛАСТОЦКІМ ТЭАТРЫ

Добра сталася, што Беластоцкі дзяржаўны драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі прынамсі на малой камеральнай сцэне ўвёў у свой рэпертуар п'есу сучаснага эстонскага пісьменніка **Эгона Ранета.** Добра таму, што літаратура гэтай рэспублікі мала ў нас вядома. Не толькі літаратура, яе гісторыя таксама.

Эстонія знаходзіцца ля ўсходніх берагоў Балтыйскага мора. Займае плошчу ў 45100 квадратных кіламетраў. Перад вякамі на гэтай зямлі жыў угра-фінскі народ званы эстамі. У XIII ст. эстонскую зямлю авалодалі рыцары ордэна мечавых кавалераў. Пасля Эстонія была раздзелена між польскім і шведскім каралествамі. У 1721 годзе заваявала яе Расія. Пасля I сусветнай вайны Эстонія адарвалася ад Расіі і была ўтворана самастойная буржуазная рэспубліка. Ад 1940 года Эстонія з'яўляецца саюзнай рэспублікай Савецкага Саюза.

Пачаткі эстонскай літаратуры сягаюць XVI ст. Аднак сучасная літаратурная эстонская мова, падобная беларускай літаратурнай мове, склалася ў палавіне XIX ст., калі ў 1857—1861 гадах паэтам Ф. Кройцвальдам быў напісаны і выдадзены народны эпас «Калевіпоэг». Найбольш буйна заквітнела эстонская літаратура талентамі і творамі пры савецкай уладзе, асабліва пасля апошняй вайны.

Эгон Ранет — адзін з выдатнейшых сучасных яе прадстаўнікоў. Ён піша аповесці, п'есы і фільмовыя сцэнарыі. Нарадзіўся 58 год таму назад у сям'і чыгуначнага рабочага са сталічнага горада Талін. Пакуль стаў пісьменнікам, прайшоў цвёрдую школу жыцця. Доўгі час працаваў звычайным чорнарабочым. Ад 14-га года жыў без маці.

П'еса «Браканьеры» (эстонскі тытул «Салякітід», а польскі — «Клусоўнікі»), якую ставіць беластоцкі тэатр, атрымала высокую мастацкую ацэнку не толькі ў Таліне, але ў Маскве і ў іншых савецкіх гарадах. Асноўная яе мастацкая вартасць заключаецца ў тым, што Эгон Ранет пры дапамозе нямногіх дзеючых асоб і простых мастацкіх і сцэнічных прыёмаў патрапіў адмаляваць вялікія праблемы чалавечага жыцця. Вось двух людзей — Ягуп і Адам — сустракаюцца ў глухой лесьнічоўцы. Ягуп, па прафесіі ляснічы, з'яўляецца прастадушным чалавекам, які, быццам біблійны прарок, за ўсё жыццё нікога не пакрыўдзіў. Яго компасам з'яўляецца «Біблія». Адам — па прафесіі мастак жывапісец. Яго жыццё запаўняюць дзве стыхіі: гарэлка і жанчыны. Лёс іх абодвух спалучае любоў да адной жанчыны. Аўтар п'есы не асуджае аднак аднаго і не хваліць другога. Наадварот, аказваецца, што «Біблія» не заўсёды з'яўляецца дасканалым компасам у жыцці, а пад павярхоўнасцю мастака прайдзісвета крыецца чалавек высакародных пачуццяў. Такім чынам п'еса ператвараецца ў мастацкую дыскусію аб сэнсе чалавечага жыцця, аб асноўных вартасцях і таямніцах душы чалавека.

У ролі Ягупа выступіў Яўгеній Дзевоньскі, а Адама прадстаўляў Станіслаў Секерскі. Абодва яны паказалі высокае акцёрскае майстэрства. У ролі трэцяй дзеючай асобы, Мэлі, выступіла Мар'я Шадкоўская. Яна, на жаль, не дараўняла сваёй ігрой калегам па сцэне.

Паглядзець п'есу Эгона Ранета «Браканьеры» варта арганізатарам і апекунам аматарскага драматычнага руху. На маю думку, яна дасканала надаецца на аматарскую сцэну. Тут толькі тры дзеючыя асобы. Месца дзеяння зусім не змяняецца. Гэта адзін пакой у лесьнічоўцы. Аднаго толькі баюся, што аматары не патрапяць пераказаць глыбіні ўнутраных перажыванняў яе герояў. А гэта ў п'есе «Браканьеры» вельмі важнае. Спрабаваць, аднак, можна.

**В. Рудчык**

Пачатак на стар. 1

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ ДОБРА ЦІ КЕПСКА?

ковыя жанчыны прыносяць і прадаюць у горадзе, па хатах і дзяржаўных установах без кантролю прадукты гаспадаркі (яйкі, смятану, масла, і г.д.). Тавар ідзе з рук у рукі, абмінае рынак і дзяржаўны гандаль.

Трэба сказаць, што ў гаспадарчым дабрабыце жыхароў пры беластоцкіх вёсках культура мае характар т.зв. «кансумцыйны». Такое акрэсленне выступае тады, калі ў акрэсленай грамадскай групе няма пастаяннага творчага руху, а культура прыймаецца пасіўна. Хтосьці там культурныя цэннасці стварае для нас. Мы глядзім, але не пераймаемся. Выдаецца, што даступнасць да прафесіянальных форм культуры фармуе такую паставу. Навошта мучыцца, калі можна скочыць у Беласток і ўсё на месцы.

Ажывілася культурнае жыццё ў прыбеластоцкіх вёсках, тады, калі па ініцыятыве аддзела культуры Павятовай рады нарадовай у Беластоку былі ў мінулым годзе пакліканы штатныя арганізатары культурна- асветнага жыцця ў мясцовасцях пакуль такіх: Васількаў, Навадворцы, Клепачы, Харошча, Агароднікі, Заблудаў, Новаалександрова. Даходзіць добры культурны цэнтр у Гарадку і будучы ў Міхалове, дзе пасля хуткага заканчэння рамонту ў тамтэйшым доме культуры (за 1 мільён злотых) трэба спадзявацца добрай працы для мястэчка і ваколіцы.

Беластоцкі павет можа пахваліцца добрай сеткай лектарскіх пунктаў. Слабей, як і ўсюды, з чытальніцтвам. Але тут справа датычыць ужо кнігазбору, які ўсё яшчэ не такі, як трэба было б.

Дапрацаваўся павет ужо пэўнай спецыялізацыі ў культурна-асветнай дзейнасці. Паводле гэтага тэзісу кожны з клубаў мае вядучую форму ў сваёй працы: драматычныя формы, вакальныя, праца з дзяцьмі, фотафільм.

Як бачым, свае добрыя і дрэнныя бакі мае палажэнне Беластоцкага павета. У развіцці і ўспрыманні культуры і асабліва той вялікай, як: прафесіянальны тэатр, аркестр, розныя клубныя ініцыятывы ў Беластоку, доступ да ваяводскіх бібліятэк, чытальняў, архіву і музеяў, Беластоцкі павет напэўна прывіліяваны. Але і каларыт уласны прыбеластоцкія мясцовасці страцілі. Жывуць славай горада, як яго спадарожнікі. Добра гэта ці дрэнна?

**Вера Леўчук**

НАСУСТРАЧ VI З'ЕЗДУ БГКТ

## ПЕРАДЗ'ЕЗДАВЫЯ ЎРАЖАННІ

Я абавязаўся абслужыць 20 гурткоў перад павятовай канферэнцыяй. Хоць было цяжкавата: завеі, пэкаэсы не хадзілі, але абавязанне выканаў. Правёў у 21 гуртку сходы. Найбольш гурткоў абслужыў у ГРН Кляшчэлі (7). Быў у Грузцы, Дашах, Жуках, Пагрaбах, Саках, Сухавольцах і Дабрывадзе. У Сухавольцах на сход прыйшлі старэйшыя мужчыны, кабеты і моладзь. Святліца была біткам набіта. Прасілі аб рэпертуар, фільмы і каб іх не забывала «Лявоніха». Сухавольцы — вёска дружная. Святліцу пабудавалі грамадскім чынам. У Дашах у адной школьнай зале сход моладзі, а ў другой — сход гаспадарчага гуртка. Калі скончыўся сход моладзі, то старэйшыя запрасілі мяне на сход гаспадарчага гуртка, каб прадэкламаваць «Максімку» і іншыя вершы. Калі параўнаць Дашы калісьці і цяпер, то за 10 гадоў змяніліся да непазнання. За гэты час пабудавана 40 мураванак і 7 гаспадароў пачне будаваць у гэтым годзе. А трэба сказаць, што мураванкі пабудаваны прыгожыя, прасторныя і некаторыя з горкамі. Вельмі прыгожая вёска Жукі. На сход прыйшлі да солтыса старэйшыя і моладзь. Пасля сходу глядзелі тэлевізар. 3 гурткі абслужыў у ГРН Дубічы Царкоўныя: Грабавец, Тапаркі і Тафілаўцы. Вельмі хочацца падзяліцца параўнаннем дзвюх вёсак. Малая вёска Тапаркі, але вельмі дружная. Купіла дом з пляцам, арганізавала прыгожы клуб, на сходзе поўна святліца моладзі і старэйшых. Грабавец — вёска вялікая, але нядружная. Любяць наракаць, што ў іх нічога няма. Але каб самім пастарацца, то не. Прэзідыум ГРН у Дубічах Царкоўных згаджаецца аплачваць клуб, каб толькі знайшлі адпаведнае памяшканне. На сходзе моладзь наракала, што яна пакрыўджана, што няма дзе правесці культурна час. Раіў я ёй, каб узяла прыклад з Тапаркоў. Апрача таго, я ў гэтай справе гутарыў у Павятовым камітэце ПАРП і Стронніцтве людовым. Інструктар БГКТ звяртаўся да кіраўніка «Рух», але памяшканне, якое прапанавалі ў Грабаўцу на клуб, замалое. Сакратар гуртка ў Грабаўцу на сходзе задэкляраваў: калі будзе святліца, 6500 зл на тэлевізар. У Саках гурток моцны. 7 настаўнікаў, 7 старэйшых актывістаў з Адамцам на чале. Членскія ўзносы аплочаны. Залешаны просяць, каб арганізаваць гурток у іх. Пакуль гуртка ў Кляшчэлях няма, але думаю, што і там будзе арганізаваны, бо было б і брыдка, каб ва ўсіх вёсках грамады былі гурткі, а ў Кляшчэлях не знайшлося беларусаў ахвотных арганізаваць гурток. У ГРН Нарва абслужыў 3 гурткі: у Васьках, Храбустоўцы і Макаўцы. У Макаўцы адчуваецца нядбаласць моладзі: тэлевізар неналаджаны, святліца пад замком. Сход адбыўся ў памяшканні бюро спулдзельні прадукцыйнай. Моладзі было мала, частка пайшла на адкрыццё гасподы ў Нарве. Старэйшыя наракалі на бездапаможнасць моладзі. Гурток у Бялках аплаціў 100% членскіх узносаў за 1968 год. Старшыня гуртка і сакратар абяцалі сабраць складчыну за 1969 год таксама ў 100%. У Агародніках да актывістаў належыць сям'я настаўніка Леановіча. Запісалася 5 новых членаў, якія часткова аплацілі членскія ўзносы за 1969 год. Апрача таго правёў сходы ў Вітаве, Арэшкаве, Дубічах Асочных, Збучу, Дубінах і Ягадніках. Пры абслугоўванні гурткоў прадаў 100 календароў і сабраў каля 500 злотых складчын.

**В. Дзун**

**На старонках красавіцкага нумара.**

## ПОЛЫМЯ

Нумар адкрываецца апавяданнямі пра Леніна. Аўтарамі іх — В. Хомчанка, К. Паўстоўскі, М. Ціханаў, Л. Радзішчаў і Л. Ракоўскі. Максім Лужанін выступае з цыклам вершаў з пабыўкі ў Амерыцы. Друкуецца таксама заканчэнне рамана Лідзіі Арабей «Іскры ў папялішчы» і нарыса Аляксандры Ус і Алены Уладзіміравай «Вікторыя», на якія звярталі мы ўвагу ў мінулым месяцы. У нумары шмат перакладаў. Апрача ўспамянутых вышэй твораў пра Леніна, часопіс друкуе даваенную паэму польскага паэта Станіслава Рышарда Дабразольскага «Яносік з Тарховай» у дасканалым перакладзе Максіма Танка. Паклоннікам Максіма Багдановіча прапануем артыкул Р. Бярозкіна «Па законах красы». Артыкул абшырны і дае добрую арыентацыю ў творчасці выдатнага беларускага паэта. Чытачы, якіх цікавіць беларуская сцэна (наогул, мала вядомая ў нас галіна беларускай культуры) пашыраць несумненна свае веды прачытаўшы артыкул Барыса Бур'яна «Сэрца з сэрцам гутарку вядзе». Расказваецца ў ім пра творчасць народнай артысткі СССР Л. Ржэцкай і народнай артысткі БССР В. Галіны.

Ювэ

### У ГАЙНАЎСКІМ ТАРТАКУ

Сыравіна проста з лесу трапляе на спецыяльны склад, дзе маніпуляцыйныя брыгады праводзяць уступную «апрацоўку». Яны рэжуць яго механічнымі пілкамі на адпаведнай даўжыні калоды і перадаюць іх да іншых аддзелаў завода.



**Міхал Якубоўскі — брыгадзір маніпуляцыйнай брыгады — за працай.**
**Фота Цаф — Сянько**

Набліжаецца вялікая гадавіна Польскага Чырвонага Крыжа — 50 год яго дзейнасці ў Польшчы. Беластоцкая арганізацыя ў гэтым юбілеі (адбудзецца ён у маі) прадставіць свае багатыя дасягненні.

Сёлеташнія дні ПЦК (8—15 май) спалучацца з 50-годдзем ПЦК. Лозунг на гэты год такі: апека над адзінокім і хворым чалавекам.

Крыху інфармацый аб гэтай дзейнасці ПЦК. Працуе зараз у ваяводстве 7 пунктаў апекі над хворым і адзінокім. Першы такі пункт паўстаў у 1962 годзе ў Беластоку, апошнія тры пункты ў 1968 годзе ў Бельску, Гайнаўцы і Саколцы. Пункты вядуць навучанне сясцёр пагатоўя ПЦК, заданнем якіх — несці дапамогу. Дагэтуль курсы прайшло 350 асоб. Запатрабаванне на апеку і на сясцёр пагатоўя ПЦК вялікае і ўсё расце. Мала-памалу апека гэтая ахоплівае і вёску, дзе не менш, як у горадзе, а мо і больш, патрабуючых, старых,

## ПРЫДЗІ КА МНЕ З ПАЦЕХАЙ ПЦК!

хворых людзей. Улічваючы пэўную заплату, якую атрымліваюць сёстры за свае паслугі, нагаварваем жанчын карыстаць з курсаў ПЦК і заняцца высокай ідэяй дапамогі і апекі.

Часта людзі прысылаюць падзяку Польскаму Чырвонаму Крыжу. Вось адзін такі прыклад. Запісала яго ў Ваяводскім праўленні ПЦК у Беластоку: «Два гады таму я цяжка захварэла, злягла. Насталі для мяне дні горычы і безнадзейнасці. Я адзінокая, не маю сваякоў, і толькі дзякуючы ПЦК знайшла людзей сапраўды блізкіх, праз якіх весялей перажываю свой горкі лёс. Сястра, якая мною апякуецца, Данута Гануцік і кіраўнічка пункта апекі над хворым Надзея Бірук вельмі добрыя і сардэчныя для мяне. Я хачу ім і ПЦК падзякаваць за гэта».

Ёсць ужо шматгадовыя заслужаныя сёстры пагатоўя ПЦК. Успомненая Данута Гануцік працуе ад 1963 года, а Надзея Бірук з'яўляецца кіраўніком беластоцкага пункта ПЦК ад пачатку яго існавання — 1962 года. З Польскім Чырвоным Крыжам звязана была яшчэ да вайны. Бачыла я архіўную здымку нейкага курса з 1933 года, на якім пані Надзя сярод бадай 30-ці асоб выдзяляецца сваёй прыгажосцю і сімпатычным выглядам увогуле.

Несці дапамогу і пацеху — гэта адно з галоўных заданняў ПЦК. І зараз Ваяводскае праўленне звяртаецца да школьнай моладзі, да ўсіх людзей з заклікам: звярніце ўвагу на людзей старых, адзінокіх! Падайце руку, усміхніцеся!

Багатая гісторыя 50 год працы ПЦК выткана з нітак дапамогі і добрай волі чалавека. Гісторыя таго, што можа чалавек чалавеку быць братам.

**В. Л.**

Наш Каляндар

## СЯБАР БЕЛАРУСАЎ

Выдатны польскі кампазітар, ураджэнец Беларускай зямлі, Станіслаў Манюшка, сто пяцьдзесятая гадавіна з дня нараджэння адзначаецца 5-га мая гэтага года, вельмі цесна быў звязаны сваёй творчасцю з беларускім асяроддзем. У нашым артыкуле мы коратка пазнаёмім чытачоў з паасобнымі фактамі, якія маюць адносіны да беларускіх сувязей вялікага польскага народнага кампазітара.

Нарадзіўся ў невялікай вёсцы Убель, непадалёк ад Мінска, які ў тыя гады ўжо з'яўляўся культурным цэнтрам краіны, у якім канцэнтраваліся ўсялякія абласныя адміністрацыйныя ўстановы, гімназія, педагагічнае вучылішча, духоўная семінарыя, тры бібліятэкі, тэатр, канцэртная зала, летняя аперэта і т.п. У Мінскай губерні налічвалася звыш 20 сярэдніх навучальных установў, — лічба, па ўяўленні таго часу, вялікая. У самым Мінску была шматлікавая інтэлігенцыя: беларуская, польская і руская. Тэатральныя сезоны ў Мінску заўсёды праходзілі з вялікім ажыўленнем, — часамі ў горадзе працавала аднечасова некалькі антрэпрыз і часта даваліся канцэрты, аб якіх сам Манюшка пісаў, што праграма іх звычайна была на высокім узроўні і адзначалася добрай падборкай выканаўцаў.

Станіслаў Манюшка рана пакінуў сваю родную вёску для Варшавы, дзе пачаў вучыцца, потым працягваў сваю адукацыю ў Берліне. Часцей за ўсё ён, аднак, стараўся знаходзіцца ў Мінску, наведваючы свой любімы горад пры кожнай нагодзе, нават і тады, калі на пастаяннае жыхарства пераехаў у Вільню.

Манюшка ледзь толькі дасягнуў 24-гадовага ўзросту, калі вядомы антрэпрэнёр Шмідткоф упершыню паставіў напісаную ім аперэту «Латарэя». Аперэта мела ў мінскай публікі поспех. Па просьбе рэжысёра драматычнага тэатра Курлова, Манюшка стварае музычную ілюстрацыю да драмы «Каспер Хаузер» вытрымаўшай у Мінску, дзякуючы гэтаму, рэкордную колькасць дваццаці аднаго спектакля, усе без выключэння пры поўных зборах.

Ужо гэтыя першыя крокі дапамаглі Манюшку ў далейшым развіцці тэатральных і музычных кантактаў. На таленавітага кампазітара звярнула ўвагу крытыка, паяўленне яго новых твораў горача прывіталі, і знатакі музыкі пачалі адносіцца да маладога кампазітара з вялікай цікавасцю.

Поспех Манюшкі ў нейкай ступені залежаў таксама ад таго, што ў Мінску, у асобе аднаго з беларускіх сяброў, пачынаючы кампазітар знайшоў вельмі таленавітага аўтара лібрэта для сваіх твораў. Гэтым чалавекам быў Вікенцій Дунін - Марцінкевіч — выдатны беларускі пісьменнік. Яго супрацоўніцтва з Манюшкам аказалася карысным для іх абодвух. Калі Марцінкевіч разбудзіў у Манюшку цікавасць да далейшай творчасці, то Манюшка, са свайго боку, узбудзіў у Марцінкевіча любоў да тэатра, як аб гэтым пісаў сам Марцінкевіч у сваіх запісках.

У выніку ўзаемнага супрацоўніцтва паўстаюць такія музычныя інсцэнізацыі і камедыі Манюшкі як «Рэкруты», «Цудадзейная вада», «Нацягнуты фрак»



# ТРЫБУНА чытачоў

## СПУЛДЗЕЛЬЧЫ БАНК

Спулдзельчы банк у Бельску Падляшскім знаходзіцца ў прыгожым, новага тыпу, будынку. А яшчэ зусім нядаўна знаходзіўся ён аж у 6-ці месцах. Цяжкія тады былі ўмовы працы. Не было пачакальні для наведвальнікаў. У цесных пакоях па трох працаўнікоў сядзела пры адным стале. Зараз банк мае 5 залаў з вялікай пачакальняй. Раўнамерна з будовай памяшкання на банк і ростам колькасці працаўнікоў, расла колькасць членаў банка, раслі абароты. З паслуг гэтай карыснай пляцоўкі карыстае штораз больш гаспадароў. Зараз банк сваёй дзейнасцю ахоплівае 6 грамадскіх радаў нарадовых і горад Бельск. З'яўляецца адным з найбольшых банкаў у ваяводстве, да якога належыць 5198 гаспадароў, а лік членаў — 2530.

У параўнанні да 1967 года ў мінулым годзе абароты ўзраслі на 180 мільёнаў зл. Сяляне атрымалі 13 мільёнаў пазык, а ўлажылі на кніжкі СОП блізка 14 мільёнаў зл. Сяляне ў большасці карысталі з пазык на кантрактацыю, на пакупку будаўляных матэрыялаў, а таксама на механізацыю сельскай гаспадаркі. Праз банк штодзённа праходзіць каля 200 наведвальнікаў, якія хваляць добрую і хуткую абслугу.

Банк цесна супрацоўнічае з гурткамі вясковых гаспадынь у Завадах, Рэпніках і Вялікіх Скрынках, дзе арганізуе цікавыя курсы, дзяцінцы, а таксама непасрэдна фінансуе гурткі вясковых гаспадынь у Гацьках, Катлах, Райску і Грусках ва ўсіх іх пачынаннях.

**В. Фалькоўскі**
**Бельск Падляшскі**

## ВУЧНІ І НАСТАЎНІКІ

У пачатковай школе ў Нарве (Гайнаўскі павет) вучні V—VII класаў актыўна перапісваюцца з савецкімі школьнікамі з Валгаграда, Ленінграда і Мінска. Гуртком таварыства Польска-савецкай дружбы (ТППР) кіруе настаўніца беларускай і рускай мовы Ала Якубоўская. Нараўскія школьнікі выменьваюць з сябрамі з СССР паштовыя маркі, паштоўкі. Пішуць аб сваіх справах, гульнях, занятках, экскурсіях.

* ✲ *

Вучні сабралі тут больш 100 кілаграмаў макулатуры і зробленыя грошы пераслалі на пабудову помніка Цэнтра здароўя дзіцяці і на сшыткі для школьнікаў з В'етнама. Кіраўнік школы Ян Іванюк вядзе пры школе фатаграфічны гурток. Школьнікі маюць школьныя і свае ўласныя фотаапараты і павелічальнік.

У школе даволі рэнтоўна працуе вучнёўская спулдзельня. Прадаюцца тут спажывецкія і пісьмовыя артыкулы. У 1968 годзе спулдзельня мела 30 тыс. зл. утаргу і заняла першае месца ў павеце. За гэта атрымала 1000 зл. узнагароды. Трэба дадаць, што ГС у Нарве добра забяспечвае спулдзельню таварамі, а ПЗГС у Гайнаўцы прызначыў ёй патрэбную шафу.

* ✲ *

У нараўскай школе вучні ашчадныя. На кніжках СКО маюць яны да 40 тысяч злотых. Найбольш мае III клас, які сабраў 6 тысяч злотых. На школьным калідоры часта зменьваюцца газеткі з паказчыкамі месц, якія займаюць класы па ашчаднасці. СКО апякуецца кіраўнік школы. Класы змагаюцца за першынство па ашчаднасці.

Вясною вучні возьмуць удзел пры пасадцы лесу. За зробленыя пры ёй грошы, а таксама за грошы сабраныя на кніжку СКО паедуць на некалькідзённую краязнаўчую экскурсію.

**Янцал**
**Нарва**

## ВІНО, ВІНО, ВІНО

У Кназазах пры канцы вёскі ў прыватным будынку знаходзіцца крама. Што праўда, крама невялікая. Прадаўшчыком гэтай крамы з'яўляецца Ян Анджэюк. У гэтай краме заўсёды ёсць піва і віно.

Кназазоўскія хлопцы і мужчыны толькі тым і займаюцца. Яны сваім п'янствам б'юць рэкорды. Калі не зойдзеш вечарам у краму, дык кожны раз можна іх спаткаць з бутэлькамі ў руках. А летам яны кожны вечар збіраюцца за гэтым будынкам на траве і папіваюць віно. Часам спяць там аж да раніцы.

**Л. В.**
**Храбалы**

## ЦІ МОЛАДЗІ З ЛАСІНКІ НЕПАТРЭБНЫ КЛУБ?

У даволі выгадным памяшканні знаходзіцца клуб «Руху» ў вёсцы Ласінка (Гайнаўскі павет). Шкада, што моладзь усё адкладае тэрмін пачатку працы ў клубе. Вось хаця б драмгурток, які перастаў працаваць восенню мінулага года. Праз зіму не было каму сарганізаваць сходу і пачаць працу ў гуртку. У клубе адбываюцца праўда сходы, але атульнаграмадскія, на якіх жыхары вёскі дыскутуюць на сельскагаспадарчыя тэмы, слухаюць парад агранома ці заатэхніка, вучацца правілаў вулічнага руху і г.д. Школа арганізуе тут акадэміі, ёлку і іншыя культурныя мерапрыемствы. Паколькі клуб знаходзіцца ў стражацкай рамізе, члены пажарнай каманды праводзяць свае сходы. У клубе ёсць адна фотагазетка. Толькі моладзь у клубе нічога не арганізуе.

**Янка Цялушэцкі**
**Гайнаўка**

## ПАВЯТОВЫ З'ЕЗД

11 красавіка адбыўся ў Сямяцічах VI павятовы з'езд таварыства Польска-савецкай дружбы. З'езд адкрыў старшыня павятовага аддзела ТППР магістр Леткі. Старшынёй з'езда аднагалосна быў выбраны магістр Валерыян Ярось. Пасля прыняцця парадку дня сакратар Ваяводскага праўлення ТППР Зофія Трыбульская, якая брала ўдзел у з'ездзе, адзначыла трох выдатных дзеячоў таварыства Польска-савецкай дружбы залатымі адзнакамі ТППР. Адзнакі атрымалі: сакратар прапаганды КП ПАРП таварыш Вацлаў Майсюшка, старшыня праўлення аддзела БГКТ у Мілейчыцах, кіраўнік школы з Вілінава, Анатоль Мартыновіч і інструктар Галоўнага праўлення БГКТ на Сямяціцкі павет Міхась Вішанка. Даклад аб працы ТППР прачытаў старшыня Леткі. Затым адбылася дыскусія, у якой узяло ўдзел 14 асоб. Усе дыскутанты гаварылі аб працы Таварыства, аб дружбе паміж польскім і савецкім народамі.

**А. М.**
**Сямяцічы**




**Дарагое Сэрцайка!**

Мне 20 год. Нядаўна пазнаёмілася я з хлопцам з суседняй вёскі. Янэк (так называецца мой хлапец) пару разоў быў у мяне ў хаце, разам хадзілі мы на забаву. Апошнім разам Янэк сказаў мне і бацькам маім, што хоча жаніцца са мною. Я вельмі ўзрадавалася. Ад гэтай пары ён пачаў усё часцей прыязджаць да мяне. Нядаўна мне сказалі, што Янэк мае дзіцё з дзяўчынай з яго вёскі. Не ажаніўся з ёю, бо чамусьці не паладзіліся бацькі паміж сабою. Яны іх развялі. Дзяўчына гэта сказала, што падасць Янка ў суд на аліменты. Але мне Янэк падабаецца і я на гэта не зважаю. Але вось што здарылася ў апошнюю нядзелю. Угаварыліся мы з Янкам сустрэцца ў адной мясцовасці. Я паехала, але Янэк не прыехаў. І ад гэтай пары не даў знаку аб сабе. Баюся, што мо пагадзіўся са сваёй дзяўчынай. Што рабіць, ці паехаць у вёску да Янка, ці напісаць да яго? Чакаю адказу.

**Аня з Сакольшчыны**

**Дарагая Аня!** Не раю табе чакаць на Янка, тым больш, што ён мае вялікі абавязак у адносінах да іншай дзяўчыны. Тое, што бацькі іх развялі, можа аказацца фікцыяй, а ў сапраўднасці Янэк можа вярнуцца да яе і павінен так паступіць. Таму не раю табе яго ні шукаць, ні пісаць да яго. Проста трэба парваць з ім усе сувязі. Ты яшчэ вельмі маладая і знойдзеш сабе хлопца, які будзе вольным, тады нічога не стане вам на перашкодзе да вашага супольнага шчасця.

**Сэрцайка**

## ЯК ПРАЦУЕ АГРАНОМ ГЕРМАНЮК

У ГРН Трасцянка, Гайнаўскага павета, з'яўляецца аграномам Уладзімір Германюк. Як прыйшоў сюды, усім здавалася, што будзе добра працаваць бо і сам паходзіць родам з суседняй вёскі Белкі. Але людзі вельмі моцна ў ім памыліліся. Цяпер аграном Уладзімір Германюк стаў вялікім панам. На вясковым сходзе ў вёсцы Белкі мне прыйшлося даведацца, што восенню мінулага года былі прызнаны мінеральныя ўгнаенні на даследчыя палеткі, а ён раздаў іх сваім сваякам. А ў вёсцы Белкі ёсць такія гаспадары, якія вядуць даследчыя палеткі са збожжам шведскім «Янчэс 2», то імі аграном не зацікавіўся, а яны плацілі па 10 зл. за кілаграм жыта, каб правесці доследы на бялоцкай зямлі.

Вясною гэтага года прыйшоў план раздзелу аўса для гаспадароў ГРН Трасцянка і трэба было даць авёс тым гаспадарам, якія не маюць свайго аўса, каб засеяць поле.

Тут зноў аграном падзяліў авёс паміж сябе і сваіх суседзяў.

Калі на вясковым сходзе ў Белках мы запыталі аграноma, чаму ён так падзяліў авёс, аграном Уладзімір Германюк адказаў: «Гэта ў маёй моцы і што захачу, тое зраблю, а вам малое дзела да гэтага».

У снежні мінулага года ў вёсцы Белкі быў арганізаваны калектыў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Яго арганізаваў Мікола Лук'янюк. Павятовае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы паклікала аграномa Уладзіміра Германюка і паверыла апеку над гэтым калектывам. Вядома, аграном згадзіўся, бо гэта ж платная работа і ад аднае асобы плацяць 100 зл у год. Уладзімір Германюк падпісаў умову на 20 асоб, але што з таго, калі аграном не зрабіў ніводнага сходу, а толькі чакае, каб хутчэй пабраць грошы. Варта, каб аграномам з ГРН у Трасцянцы зацікавіліся павятовыя ўлады і пакаралі за яго паступкі.

**Шпілька**



## ЗАБАБОНЫ

Нягледзячы на тое, што Гайнаўшчына за народнай Польшчы зрабіла велізарны крок наперад ва ўсіх галінах, у тым ліку і ў развіцці асветы і культуры, аднак да гэтага часу на многіх вёсках пакутуюць страшэнныя забабоны. А вось адзін з іх: многія вераць у тое, што ў няшчасці і хваробах памагаюць шаптухі. Але яшчэ лепш ад шаптух памагае кабета, якая зацяжарыла першы раз. Яна нават паломы касцей выцягае. І так, калі наступіць палом рукі або нагі, шукаюць некаторыя людзі маладой жанчыны, якая ўпершыню зацяжарыла. Гэтая кабета мусіць пацягнуць руку або нагу тры разы і пасля гэтага перастае балець і правільна зрастаецца косць. А калі цяжарная кабета таксама зломіць руку або нагу, яна таксама шукае жанчыны цяжарнай першым дзіцём.

І нягледзячы на тое, што многія ад гэтых забабонаў моцна пацярпелі, бо маюць дрэнна зросшыеся косці, аднак гэты забабон яшчэ даволі жывучы на Гайнаўшчыне.

**М. Я.**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Złodziej brzoskwiń" (bułg.), 6—7. „Czarny mustang" (USA, 8—9. „Wilcze echa" (polski), 10—11.

**Дубіны**

„Hrabina Cosel" (polski), „Otello z prowincji" (węgierski), 10—11.

**Нараўка**

„Rondo" (jugosł.), „Trzy topole" (radz.), 7—11.

**Нарва**

„Panowie z kompleksami" (włoski), „Paryż-Warszawa bez wizy" (polski), 7—11.

**Чыжы**

„Jak się pozbyć Helenki" (czeski), „Miałem 19 lat" (NRD), 7—11.

**Дубічы Царкоўныя**

„Między linami ringu" (USA), „Żywot Mateusza" (polski), 7-11.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Ubranie prawie nowe" (radz.), „Wehikuł czasu" (USA), 7—11.

**Орля**

„Berlin" (radz.), „Romanca na trąbkę" (czeski), 7—11.

**Райск**

„Żenia, Żenieczka, katiusza" (radz.), „Za naszą i waszą wolność" (polski), 7—11.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Czarny mustang" (USA), „Morderca na zawołanie" (NRD), 6—9.

**Міхалова**

„Język zwierząt" (radz.), 6—7. „Cena strachu" (franc.), 8—9. „Kozacy" (radz.), 10—11.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Zwierzęta" (franc.), 6—7. „Szesnasta wiosna" (radz.), 8-9. „Kochać jak Romeo" (jugosł.), 10—11.

**Шудзялава**

„Ostatni po Bogu" (polski), „Piąty jeździec Apokalipsy" (czeski), 7—11.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Trema" (USA), „Cudowna łamigłówka" (czeski), 7—11.

**Новы Двор**

„Intrygantki" (czeski), „Dywersanci" (jugosł.), 10—11.

**Ліпск**

„Zamach" (polski), „Zakazane piosenki" (polski), 7—11.




Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7107

